# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 21 чэрвеня 1994 года | № 65 (10765) | Цана 100 руб.


ФАКТЫ · ПАДЗЕІ · АРГУМЕНТЫ · МЕРКАВАННІ

## З ПРЫСВАЕННЕМ ГАНАРОВАГА ЗВАННЯ!

За вялікія заслугі ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці, шматгадовую плённую работу Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прысвоіў ганаровае званне «Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь» старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання выканкома абласнога Савета дэпутатаў **Анатолю Міхайлавічу Жуку.**

За заслугі ва ўмацаванні правапарадку, забеспячэнні выканання законнасці начальніку аддзела пракуратуры вобласці **Івану Паўлавічу Аленчыку** прысвоена ганаровае званне «Заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь».

*(Наш кар.).*

## ДА 50-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

Пад старшынствам першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кузняцова адбылося чарговае пасяджэнне рэспубліканскай камісіі па падрыхтоўцы да святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Разглядалася пытанне гатоўнасці Мінскага Палаца спорту да правядзення ўрачыстага сходу і святочнага канцэрта майстроў мастацтваў Беларусі. Адзначалася, што капітальны рамонт будынка выкананы, завяршаюцца работы па наладцы электра- і гукатэхнічнага абсталявання, аддзелцы ўнутраных памяшканняў Палаца спорту.

Было заслухана паведамленне аб падрыхтоўцы да сустрэчы, размяшчэнні і арганізацыі знаходжання афіцыйных дэлегацый краін СНД, Прыбалтыкі, гарадоў-герояў, воінскіх часцей, якія носяць ганаровае званне «Мінскія», гасцей з далёкага замежжа. Атрымана афіцыйнае пацвярджэнне аб прыбыцці на святкаванне 50-годдзя вызвалення Беларусі дэлегацый з Расіі, Украіны, Малдовы, Таджыкістана і іншых краін Садружнасці, прадстаўнікоў гарадоў — пабрацімаў Мінска з Францыі, Германіі, Кітая, ЗША, Вялікабрытаніі, груп ветэранаў Польскай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, авіяпалка «Нармандыя-Нёман», Саюза ветэранаў вайны з Ізраіля.

На пасяджэнні камісіі таксама ішла размова аб арганізацыі шэсця ветэранаў вайны, прадстаўнікоў грамадскасці рэспублікі і замежных гасцей да помніка на плошчы Перамогі, уручэнні ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны юбілейнага памятнага знака ў гонар 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, правядзенні іншых святочных мерапрыемстваў.

*Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — Белінфарм.*

## "Сябар дзяцей" — старшыні калгаса

Сяргей Мікалаевіч Прохарчык больш за 15 гадоў працуе ў Салігорскім раёне, спачатку дырэктарам міжгаспадарчага прадпрыемства па вытворчасці кармоў, затым — старшынёй калгаса "Новае жыццё". Зарэкамендаваў сябе вопытным гаспадарнікам. Гэтымі днямі на пасяджэнні прэзідыума абласнога аддзялення Беларускага дзіцячага фонду С.М.Прохарчыку за вялікія клопаты аб падрастаючым пакаленні прысвоена званне "Сябар дзяцей" і грашовая прэмія. Мясцовая сярэдняя школа займае тры калгасныя будынкі. Эксплуатацыя памяшканняў, асвятленне і ацяпленне ажыццяўляюцца за кошт гаспадаркі. У мінулым навучальным годзе для 106 школьнікаў было арганізавана бясплатнае аднаразовае харчаванне. Наладжана рэгулярная падвозка калгасным транспартам дзяцей у школу з вёсак Заходняя Морач і Вялікі Лес. Абсталяваны клас мікракалькулятарамі. Школьныя майстэрні пастаянна забяспечваюцца будаўнічымі матэрыяламі. Закуплены нацыянальныя касцюмы для калектыву мастацкай самадзейнасці, лекі для дзіцячага сада — на суму два мільёны рублёў у цэнах 1993 года. У 13 калгасных дамах жывуць сем"і настаўнікаў. У школе плённа працуе вучнёўскае звяно па вырошчванню агароднiны, якое летась рэалізавала прадукцыі на мільён рублёў. Сяргей Мікалаевіч — пастаянны госць і ўдзельнік школьных мерапрыемстваў. Ды ці пералічыш усё тое, што робіць для дзяцей старшыня калгаса.

Званне "Сябар дзяцей" і грашовая прэмія прысвоены і ўрачу-педыятру Мядзельскай цэнтральнай раённай бальніцы Веры Сямёнаўне Гурыновіч, арганізатару па ахове праў дзяцей, настаўніцы-пенсіянерцы з г. Маладзечна Соф"і Нікадзімаўне Пашкевіч.

*Уладзімір КОБРЫН, член прэзідыума абласнога аддзялення Фонду.*

## АГРАРНІКІ АНАЛІЗУЮЦЬ СВАЕ ХІБЫ

У Палацы культуры калгаса імя Гастэлы Мінскага раёна адбылося сумеснае пасяджэнне Савета Саюза аграрнікаў і Савета калгасаў вобласці. Прадстаўнікі гаспадарак і ўстаноў, якія ўваходзяць у гэтыя Саветы, прааналізавалі работу сваіх мясцовых арганізацый па падрыхтоўцы да выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, ход запаўнення падпісных лістоў па вылучэнню на пасаду Прэзідэнта А.І.Дубко. Канстатавалася, што ў некаторых раёнах вобласці асобы, якія вялі падпіску, дапускалі парушэнні пры запаўненні лістоў. Гэта прывяло да таго, што звыш 30 працэнтаў подпісаў жыхароў вобласці, якія падтрымалі кандыдата ад аграрнага блока, выбарчыя камісіі прызналі несапраўднымі. Дарэчы, колькасць такіх подпісаў па Гродзенскай і Віцебскай абласцях не перавысіла 18, а па Брэсцкай — увогуле 8 працэнтаў.

На пасяджэнні разгледжаны таксама пытанні фінансавання газіфікацыі і капітальнага будаўніцтва ў калгасах і саўгасах на сучасным этапе.

*Іван КАВАЛЬ.*

## ВЕТЭРАНЫ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ КЕБІЧА

Напрыканцы мінулага тыдня адбыўся пленум Барысаўскага гарадскога савета ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл. Яго ўдзельнікі абмеркавалі два злабадзённыя пытанні: аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і аб святкаванні 50-годдзя вызвалення горада і рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У прынятым па першаму пытанню рашэнні ўдзельнікі пленума звярнуліся да ўсіх ветэранаў горада з заклікам прагаласаваць за кандыдатуру В.Кебіча.

У гэтым не было выпадковасці. На нядаўняй сустрэчы з жыхарамі горада Вячаслаў Францавіч паабяцаў дапамагчы барысаўчанам у правядзенні меліярацыйных работ у Залінейным раёне, які часта падтапляецца вадой. Старшыня гарсавета В.Капульцэвіч паведаміў, што ў гарадскі бюджэт пералічаны ўжо мільярд рублёў, хаця прэм"ер абяцаў выдзеліць на гэтыя мэты ўдвая менш.

*/НАШ КАР./.*

В живописных окрестностях Ждановичь, между Дроздовским водохранилищем и Минским морем, среди сосен и берез, в зеленой зоне, казалось бы, давно закрытой для нового строительства, ютится недавно возведенная дача еще одного "пострадавшего" от "номенклатуры" борца с коррупцией, бывшего министра МВД В.Егорова – ныне доверенного лица С.Шушкевича.

Вообще-то, есть сооружения и более грандиозные, но здешних старожилов поразили котлован и сверхрекордные сроки строительства. Все это как-то не совсем увязывается с чистосердечной и самоотверженной борьбой хозяина с произволом и коррумпированностью чиновничества. Управлявшаяся возле "домика" дама, без малейшего намека на дружелюбие, изрекла вслед нашему фотокору: "...Наймиты КГБ проклятые!"

■ Спажывецкая каапературыя

# БАЗА. У ТУПІКУ

На здымках: таваразнаўца аддзела трыкатажу Наталля Мірная за работай на камп"ютэры; узоры новай прадукцыі праглядваюць загадчыца склада Людміла Краўцова і таваразнаўца Марыя Вяль.

Час ад часу нас смешыць "барадаты" анекдот. Званіць чалавек па тэлефоне. На тым канцы провада паднімаюць трубку, і ён адразу ўдакладняе: "Гэта база?" "Так, — адказвае бадзёры мужчынскі голас, — маёр Іваноў слухае!" "Ах, гэта ваенная база..." — расчараваная кладзе трубку няўдачлівы абанент. Ён жа хацеў пачуць голас з гандлёвай.

— Пры выпадку любяць падкалупнуць нас гэтым анекдотам, — смяецца Р.Р.Хаткевіч, дырэктар Маладзечанскай міжраённай універсальнай гандлёвай базы аблспажыўсаюза. — І многім здаецца, што ў нас тут залежы золата. Але, думаю, мала чым адрозніваецца цяпер база ваенная ад базы гандлёвай: і там пуста, і там пуста.

Сапраўды, велізарныя будыніны з мнагаярусньмі стэлажамі выглядаюць дужа непрывабна. Быццам нейкае запусценне, толькі без павуціння і смецця.

— Задача наша, — працягвае Рыгор Рыгоравіч, — прымаць тавары з прамысловых прадпрыемстваў, захоўваць іх і дастаўляць у магазіны. Напрамую адпраўляем іх у 270 гандлёвых пунктаў Маладзечанскага, Валожынскага, Вілейскага, Мядзельскага раёнаў, а ўсяго — у 390 магазінаў. Калісьці гэтыя паліцы ў прамым сэнсе слова ламаліся ад тавараў. І нашых, і імпартных. Ледзьве паспявалі выконваць заяўкі, фарміраваць партыі заказаных вырабаў па аб"ёму, асартыменту і г.д. Таму і прыбудоўку вялікую пачалі рабіць, якая пакуль непатрэбнай аказалася.

Усяго ж складская плошча складае звыш 8 тысяч квадратных метраў. Ёсць тут экспедыцыя і кантэйнерная пляцоўка. Дакладны графік праходжання тавараў, фарміраванне іх па маршрутах дазваляюць рацыянальна выкарыстоўваць аўтатранспарт. Дастаўляць жа тавары можна і чыгункай, і грузавікамі. Маставы кран грузападымальнасцю 5 тон гатовы падхапіць самы цяжкі кантэйнер. Наогул, механізацыя прымяняецца тут даволі шырока: ёсць акумулятарныя пагрузчыкі, электраштабялёры, цялежкі на паўтоны кожная. Трэба заўважыць: складское абсталяванне зманціравана так, каб найбольш поўна выкарыстоўваць памяшканні.

Аднаго не хапае — тавараў.

— Прытым — катастрафічна, — удакладняе галоўны таваразнаўца базы Людміла Іванаўна Мышко. — Прайшоў вось кірмаш на другое паўгоддзе, фабрыкі не маглі нічога добрага прапанаваць нам: у іх сыравіны няма. А магазіны пустыя. Вось што значыць парваць эканамічныя сувязі, нагарадзіць мытняў. Гандаль, як люстэрка любой эканомікі, вельмі чуйна рэагуе на любыя змены ў ёй. Нам жа першым даводзіцца расплачвацца за хібы і пралікі вытворцаў у прамым і пераносным сэнсе слова. Па-першае, калі няма тавараў, людзі каго вінавацяць? Вядома ж, гандаль. Правільна, чалавек хоча купіць рэч, а наш абавязак — задаволіць попыт. Па-другое, сёння ўсе пастаўшчыкі патрабуюць папярэднюю аплату. А дзе грошы ўзяць? Мядзельскі райспажыўсаюз яшчэ за снежань мінулага года не разлічыўся з базай. Выходзіць, мы беспрацэнтна крэдытуем нашых спажыўцоў, самі ж плацім, без перабольшання, кабальныя працэнты за карыстанне крэдытамі. Ды і тыя даводзіцца выпрошваць.

За дзвярыма маленькага кабінета Людмілы Іванаўны прасторная светлая зала, назва якой — узорная. Тут выстаўляюцца ўзоры ўсіх наяўных вырабаў. Прадстаўнікам рознічнага гандлю лёгка зарыентавацца пры выбары тавару, заказаць па фасону, форме, расфарбоўцы, размеру...

Але гэта прызначэнне ўзорнай. Колькасць узораў вельмі абмежаваная. Выбіраць няма з чаго. Бяры што ёсць, бо заўтра і гэтага не будзе.

Л.І.Мышко яшчэ помніць тыя часы, калі правяралі, ці ёсць у магазінах, скажам, паліто па размерах, росту, крою. На базе былі. А цяпер і вытворцы гоняць што лягчэй — пры татальным дэфіцыце возьмуць. Навошта тая спецыфікацыя? Трыкатаж дык трыкатаж, які ёсць, кошт і адзінкі, без, так сказаць, расшыфроўкі.

— І што далей, Людміла Іванаўна?

— Маўчу. У тупіку.

— А мабыць, база — лішняе звяно?

— Прабачце, але гэта, зазначу, погляд непрафесіянала. Ну хіба магазін ці нават райспажыўсаюз зможа мець зносіны з такой колькасцю прадпрыемстваў, як мы? Ды нават прасцейшую аперацыю — прыняць і падсартаваць тавар — дзе зрабіць? Няма дзе. У нас жа гэта пастаўлена на сучасную аснову. Цэлы вылічальны камп"ютэрны цэнтр маем. Адгрузка раней ішла толькі па дысплеях. Сёння ж — ручны, асабісты адбор, адзінкамі. Ідзём на гэта, каб толькі тавар знайшоў свайго пакупніка, каб да мінімуму былі скарочаны дні продажу.

**/Заканчэнне на 3-й стар./**

■ Прэзідэнцкі марафон

## ВЫБАР ЗА ВАМІ

***Да выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь засталося ўсяго нічога. Многія, відаць, ужо вырашылі, за каго аддадуць свае галасы, некаторыя, напэўна, яшчэ вагаюцца, каго з кандыдатаў на гэтую высокую пасаду падтрымаць. У любым выпадку 23 чэрвеня кожны з нас павінен зрабіць свой выбар. Таму яшчэ раз нагадаем нашым чытачам аб тым, як будзе праходзіць працэдура галасавання.***

Выбарчыя ўчасткі пачынаюць сваю работу ў 7 гадзін раніцы, заканчваюць — у 22.00. Пры сабе абавязкова мець пашпарт або пасведчанне асобы.

Кожны з выбаршчыкаў павінен атрымаць запрашэнне. Калі яго па нейкай прычыне ў вашай паштовай скрынцы не аказалася — не хвалюйцеся. Ваша прозвішча павінна быць занесена ў спіс выбаршчыкаў, і пасля прад"яўлення адпаведнага дакумента вы атрымаеце бюлетэнь. Можа здарыцца, аднак, што па якойсьці недарэчнасці вашага прозвішча не аказалася ў спісе выбаршчыкаў — адзнака ў пашпарце аб прапісцы дае права на галасаванне.

Той, хто 23 чэрвеня не зможа з"явіцца на выбарчы участак, мае магчымасць прагаласаваць датэрмінова.

Некаторыя гарадскія жыхары выехалі на вясенне-летні сезон на дачу. І знаходзяцца там ужо доўгі час. Яны могуць прагаласаваць на бліжэйшым выбарчым участку. Але ўжо галасаваць другі раз па месцы свайго пастаяннага жыхарства не маюць права.

Працэдура выбараў, як вынікае з вышэйсказанага, нескладаная. А вось чыё прозвішча пакінуць у спісе кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта —асабістая справа кожнага выбаршчыка.

*Падрыхтаваў інфармацыю Мікалай ЖУЧКО.*

# ПАРАДАК ГАЛАСАВАННЯ

У адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб правядзенні выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" дзень выбараў першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь назначаны на 23 чэрвеня 1994 года. Гэты дзень аб"яўлены выхадным днём.

Галасаванне будзе праводзіцца з 7 да 22 гадзін. На ўчастках для галасавання, якія ўтвораны ў воінскіх часцях, санаторыях і дамах адпачынку, бальніцах і іншых стацыянарных лячэбных установах, участковая камісія можа аб"явіць галасаванне закончаным у любы час, калі прагаласавалі ўсе выбаршчыкі, уключаныя ў спіс.

Адказнасць за арганізацыю галасавання, забеспячэнне тайны волевыяўлення выбаршчыкаў, абсталяванне памяшканняў і падтрыманне ў іх неабходнага парадку нясе ўчастковая камісія.

Агітацыя ў дзень выбараў забаронена. Галасаванне праводзіцца ў спецыяльна адведзеных памяшканнях, у якіх павінны быць абсталяваны ў дастатковай колькасці кабіны або пакоі для тайнага галасавання, вызначаны месцы выдачы бюлетэняў і ўстаноўлены скрынкі для галасавання. Скрынкі для галасавання ўстанаўліваюцца такім чынам, каб галасуючыя пры падыходзе да іх абавязкова праходзілі праз кабіны або пакоі для тайнага галасавання.

У дзень выбараў перад пачаткам галасавання старшыня ўчастковай камісіі ў прысутнасці ўсіх членаў камісіі правярае, пламбіруе або апячатвае скрынкі для галасавання.

У памяшканнях для галасавання з моманту апячатвання выбарчых скрынак да заканчэння падвядзення вынікаў галасавання маюць права прысутнічаць дэпутаты, прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх аб"яднанняў, працоўных калектываў, выбаршчыкаў, сродкаў масавай інфармацыі, даверанын асобы кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, а таксама наглядальнікі ад іншых дзяржаў і міжнародных арганізацый.

Пастановай Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 чэрвеня 1994 года растлумачана, што рашэнне аб накіраванні сваіх прадстаўнікоў для прысутнасці ў памяшканні для галасавання прымаецца на пасяджэнні кіруючага органа палітычнай партыі, іншага грамадскага аб"яднання ці яго арганізацыйных структур, сходах (канферэнцыях) працоўных калектываў, сходах выбаршчыкаў па месцы жыхарства, кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі.

Аб прысутнасці прадстаўнікоў у памяшканні для галасавання, у тым ліку дэпутатаў, давераных асоб кандыдатаў у прэзідэнты, замежных наглядальнікаў, пісьмова паведамляецца адпаведнай камісіі не пазней чым за два дні. Паўнамоцтвы ўказаных асоб павінны быць засведчаны адпаведным дакументам.

Кожны выбаршчык галасуе асабіста, галасаванне за іншых асоб не дапускаецца. Адпаведнай участковай камісіяй выбаршчыку выдаецца бюлетэнь на падставе спіса выбаршчыкаў пасля прад"яўлення пашпарта або іншага пасведчання асобы. Пры атрыманні бюлетэня галасуючы распісваецца супраць свайго прозвішча ў спісе. Хочацца напомніць, што ў адпаведнасці з Законам "Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" права выбіраць маюць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія дасягнулі да дня або ў дзень выбараў 18 гадоў, пастаянна або часова пражывалі да моманту складання спіса выбаршчыкаў на тэрыторыі данага ўчастка і маюць права ўдзельнічаць у галасаванні. У выбарах не ўдзельнічаюць грамадзяне, прызнаныя судом недзеяздольнымі, асобы, якія ўтрымліваюцца па прыгавору суда ў месцах пазбаўлення волі. У галасаванні не прымаюць удзел асобы, у адносінах да якіх у парадку, устаноўленым крымінальна-працэсуальным заканадаўствам, выбрана мера стрымання — утрыманне пад вартай.

У адпаведнасці з пастановай Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 6 красавіка 1994 года на адваротным баку бюлетэня для галасавання павінны стаяць подпісы не менш дзвюх асоб, якія ўваходзяць у склад участковай камісіі, што робіцца з мэтай выключэння падлогу бюлетэняў для галасавання.

Бюлетэнь па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь запаўняецца галасуючым у кабіне або пакоі для тайнага галасавання. Пры запаўненні бюлетэня забараняецца прысутнасць каго б там ні было, акрамя галасуючага. Выбаршчык, які не мае магчымасці самастойна запоўніць бюлетэнь, мае права запрасіць у кабіну або пакой іншую асобу па свайму меркаванню, акрамя члена ўчастковай камісіі.

Пры галасаванні выбаршчык ва ўмовах, якія выключаюць кантроль за яго волевыяўленнем, выкрэслівае ў бюлетэні прозвішчы кандыдатаў, супраць якіх ён галасуе. Запоўнены бюлетэнь выбаршчык апускае ў скрынку для галасавання.

У выпадку, калі выбаршчыкі па стану здароўя або іншых уважлівых прычынах не могуць прыйсці ў памяшканне для галасавання, участковая камісія па іх просьбе, выказанай у пісьмовай або вуснай форме, дaручае не менш чым двум членам камісіі арганізаваць галасаванне па месцы знаходжання гэтых выбаршчыкаў у дзень выбараў. Пры гэтым маюць права прысутнічаць прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх аб"яднанняў, калектываў выбаршчыкаў.

*АРГАНІЗАЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.*



■ Рэха вогненнай бяды

### НАЗАПАСІЎ!

Па трывожнаму сігналу дзяжурны каравул Слуцкай пажарнай часці быў накіраваны на вуліцу Будаўнікоў. Тушыць пажар у падвале вельмі складана і небяспечна. Звяно газадымаахоўнікаў пайшло ў разведку. Ачаг пажару быў знойдзены. У падвале гарэў адсек пенсіянера Г.А.Баркоўскага. Чалавек быццам падліў масла ў агонь: захоўваў тут 20 літраў газы. У позні час у нецвярозым стане наведаўся ў сваё сховішча. Пасля — не засталося ні каністры, ні паліва. Толькі дзякуючы пажарным удалося своечасова прадухіліць бяду.

### ЗАДЫХНУЛІСЯ Ў ДЫМЕ

Жывёлаводы калгаса імя Калініна разам з жыхарамі вёскі Старына Чэрвеньскага раёна выратавалі жывёлу з палаючага кароўніка. У выніку пажару ў небяспеку трапілі 220 кароў. Для тушэння агню да месца здарэння былі накіраваны пяць пажарных падраздзяленняў. На жаль, агонь не пашкадаваў 37 кароў і 10 цялят. Жывёліны задыхнуліся ў дыме.

Работнікі міліцыі і пажарнай службы высвятляюць прычыну здарэння.

### ВЫРАТАВАЛІ ПАЖАРНЫЯ

Па невядомай пакуль прычыне ўспыхнула полымя ў доме А.П.Беляковай, якая жыве ў г.Клецку па вуліцы Першамайскай. Пажарныя райцэнтра самаахвяранна вялі барацьбу з агнём. З палаючага дома была выратавана гаспадыня. Жанчына атрымала вельмі моцныя апёкі і ў цяжкім стане змешчана ў бальніцу. Урачы змагаюцца за жыццё маладой маці.

### ВЯДЗЕЦЦА СЛЕДСТВА

Зусім нядаўна старшыня калгаса «Іскра» Дзяржынскага раёна П.І.Аксёненка пабудаваў домік у садаводчым таварыстве «Блакітныя сажалкі». І вось на золку здарылася непрадбачанае. Успыхнула драўляная пабудова. Абышлося без ахвяр, бо гаспадар знаходзіўся дома. Позні выклік не дазволіў пажарным хутка збіць полымя. Яны зрабілі ўсё магчымае, каб агонь не перакінуўся на суседнія пабудовы. Прычыну пажару высвятляюць работнікі міліцыі і пажарнай службы.

### У ПЕКЛЕ

У той дзень пажар узнік у Капылі па вуліцы Камсамольскай у 48-кватэрным доме. Гарэў падвал. Сітуацыя ўскладнялася тым, што з-за высокай тэмпературы мясцовыя пажарныя без спецыяльнага рыштунку не маглі ўвайсці ў вогненнае пекла. Самаахвярна працавалі газадымаахоўнікі са Слуцкай ваенізаванай пажарнай часці. Да самай ночы спецыялісты пажарнай справы вялі барацьбу з агнём.

«Начыніць» падвал «пастараліся» самі жыхары. Што там толькі не захоўвалася! Старая мэбля, анучы, макулатура, лакі і фарбы, нават ёмістасці з бензінам. Дзверы ў памяшканне былі адчынены. Неасцярожнасць з запалкамі і прывяла да бяды. Сярод людзей ахвяр няма. Вядзецца следства. Выратавана маёмасць на суму звыш мільярда рублёў.

### У ПОШУКУ ПРЫГОД

Не паспелі будаўнікі поўнасцю завяршыць будаўніцтва гаража ў Мар"інай Горцы для вытворчага аб"яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі, як дзятва пусціла сюды «чырвонага пеўня». Нягледзячы на металічныя краты, дзесяцігадовы Сяргей М. знайшоў дзірку ў будынку. У выніку гульні з запалкамі ўспыхнуў цагляны бокс, дзе знаходзіліся аўтобус і іншая тэхніка. Цяпер, каб адрамантаваць аўтобус, неабходна затраціць шмат сродкаў.

*Фёдар САГАНОВІЧ, супрацоўнік УУС аблвыканкома.*

# Навошта вынаходзіць веласіпед?

**Ёсць добра праверaная часам форма выхавання дзяцей — піянерская.**
**Толькі трэба напоўніць яе новым зместам, — прыйшлі да такой высновы ў Любанскім раёне. І актыўна дзейнічаюць**

У гэтыя дні ў раёне пачаў працаваць круглаcутачны аздараўленчы лагер «Арэса». Пры 32 школах дзейнічаюць аздараўленчыя пляцоўкі, дзе хлопчыкі і дзяўчынкі адпачываюць толькі ўдзень. На многіх з іх — піянерскія гальштукі. У руках — горны, барабаны...

Хачу адразу супакоіць крайніх радыкалаў: гальштукі не «савецкія», а з беларускім арнаментам. Дзяцей пры такой сімволіцы, як і раней, можна часта бачыць у хатах састарэлых людзей, дзе яны дапамагаюць па гаспадарцы, пры ўпарадкаванні магіл загінуўшых, са шпакоўняй на дрэве, з рукзакамі за плячыма.

Педагогі Любаншчыны справядліва лічаць, што якія б палітычныя буры ні скаланалі рэспубліку, маладое пакаленне трэба выхоўваць. Інакш іх можа павесці за сабой хтосьці іншы, з чорнымі думкамі, нядобрымі намерамі. Выхавальнікі СШ №3, як і большасці школ раёна, вырашылі: навошта вынаходзіць веласіпед? Ёсць добра праверaная часам форма выхавання дзяцей, да якой яны цягнуцца,— піянерская. Толькі трэба напоўніць яе іншым зместам.

— Мы цалкам адмовіліся ад ідэалагізацыі ў выхаваўчым працэсе, — гаворыць намеснік дырэктара А.Г.Сенажацкая. — Арыентуем сваіх выхаванцаў на агульначалавечыя каштоўнасці. Ад іх не патрабуецца быць гатовымі да барацьбы за ідэі нейкай партыі. Яны ў сваёй дзейнасці кіруюцца такімі законамі-прынцыпамі: піянер шануе сваё добрае імя, гонар арганізацыі, яго слова не разыходзіцца са справай. Піянер клапоціцца аб усіх, каму патрэбна дапамога, умее цаніць дружбу, да таго ж, ён — гаспадар сваёй арганізацыі, з павагай ставіцца да працы, беражлівы, умее зарабляць грошы і ведае цану ім. Хіба ж гэта дрэнныя арыенціры?

Цікавая дэталь: піянеры гэтай дружыны, якая носіць імя А.Гайдара, маюць не аднолькавыя гальштукі. Калі ўбачыце на адным з іх, скажам, зялёную палоску, то ведайце, што яго гаспадар — член атрада, якога ў першую чаргу непакояць экалагічныя праблемы. Такія дзеці і шпакоўні майструюць, і парк даглядаюць. Яны прынялі актыўны ўдзел у раённым экалагічным марафоне, сабралі нямала грошай.

Сіняя палоска азначае, што падлетак з атрада, які «спецыялізуецца» на культуры асобы, больш глыбока вывучае правілы паводзін у сям'і, сярод таварышаў, у грамадстве. Для набыцця навыкаў яны сустракаюцца з адпаведнымі спецыялістамі, сумесна з бацькамі ўдзельнічаюць у вечарах, дзе дэманструюць свае навыкі.

Спадчына — гэта, бадай, цяпер самы цікавы кірунак у піянерскай рабоце. Школьнікі гэтага атрада разам з дарослымі ў дні беларускіх нацыянальных святаў праводзяць цікавыя вечары, арганізоўваюць кірмашы, вывучаюць народныя песні і танцы, актыўна прапагандуюць родную мову. Многа агульнага з імі ў хлопчыкаў і дзяўчынак з атрада, профіль якога — этнаграфія. Яны збіраюць прадметы даўніны, запісалі ўспаміны ветэранаў вайны і працы, занатавалі гісторыю свайго роднага горада. Мэта яшчэ аднаго атрада — як мага больш сабраць металалому, макулатуры.

Але ёсць задачы, якія датычацца літаральна кожнага піянера: старанна вучыцца, пашыраць свой кругагляд, быць добрымі, чулымі, спагадлівымі, дапамагаць старым, адзінокім, што жывуць у іх мікрараёне. У школе чатыры сотні піянераў, 150 хлопчыкаў і дзяўчынак рыхтуюцца павязаць гальштукі.

— Прымаем у піянеры ўрачыста, на лінейцы, — расказвае важатая Ірына Давыдзенка. — Удзельнічаюць, як правіла, ветэраны горада. Старшакласнікі перадаюць значкі, павязваюць юным піянерам свае гальштукі. Дарэчы, гальштукі, іншую піянерскую сімволіку сёння немагчыма купіць. Даводзіцца выразаць, шыць, клеіць самім з таго, што маем пад рукамі.

— Вельмі дрэнна і тое, што мы фактычна варымся ў сваім саку, — дадае яе калега Ала Ісламава. — У раёне няма арганізацыі, якая б дапамагала нам метадычна, арганізацыйна. Тое ж самае і ў вобласці. Няма каму нават турзлёт піянераў раёна арганізаваць, якога дзеці заўсёды чакаюць.

Крыўду важатых зразумець не цяжка. Сапраўды, некаторыя кіруючыя работнікі, відаць, вельмі баяцца слова «піянер» — а раптам нехта палічыць іх кансерватарамі і прыхільнікамі камунізму? Хаця слова гэтае, як вядома, не бальшавікамі прыдумана, «піянер» — значыць, першы. Больш таго, некаторыя наогул адмаўляюцца ад правядзення выхаваўчай работы сярод падрастаючага пакалення. Пустаты, як вядома, у прыродзе не бывае, яе хтосьці абавязкова запоўніць. Ды далёка не самым лепшым.

У той жа час асабіста я не магу падзяліць задаволенасць важатых тым, што ўсе чацвёртакласнікі дружна, як адзін, падаюць заявы ў піянеры, і іх адразу прымаюць цэлымі класамі. Ад такога падыходу патыхае старым, кампанейшчынай. Паўтаруся: піянер — значыць, першы, і каб стаць ім, трэба рыхтавацца, прайсці пэўны адбор, паказаць свае якасці. Карацей, заслужыць права называцца першым, быць прыкладным у вучобе, паводзінах.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

## "КРАЙНЕ НЕДАСТАТКОВА"...

На сесіі Нясвіжскага раённага Савета заслухана справаздача старшыні гарсавета А.А.Гацілы. Шмат ляцела ў яго адрас крытычных "стрэлаў".

Два ўнушальныя будынкі знаходзяцца літаральна побач. У адным — выканком райсавета, у другім — гарсавета. І функцыі іх, можна сказаць, падобныя. І ўсё ж, як сведчылі выступаўшыя на сесіі дэпутаты райсавета, "Гаціла і яго каманда многае спускаюць на тармазах". Вялікія грашовыя сродкі, якія ідуць сюды з бюджэту раёна, нярэдка распыляюцца. Калі ў цэнтры горада "падчышчаны і добраўпарадкаваны вуліцы і скверы, то на ўскраіне — чорт нагу зломіць".

Думалася, што пасля канстатацыі фактаў будуць названы канкрэтныя адрасы. Бо як-ніяк, і газ, і водаправод, і асфальтаванне вуліц "ідуць" туды, дзе забудоўваюцца чыноўнікі ўсіх рангаў. Гарсавет моўчкі абыходзіць гэтую праблему.

Ці не таму больш палавіны скаргаў, пісьмаў па бытавых праблемах гараджан паступаюць у выканком райсавета.

Аўтарытэт "гарадскіх начальнікаў", мякка кажучы, невысокі. Аб гэтым сведчыць хаця б той факт, што кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў горада не з"яўляюцца на сесію гарсавета, бо лічаць, што там вядуцца "пустыя размовы".

Несвіжане на сваёй шкуры адчулі "дзейнасць" народных выбраннікаў горада: нават такія падраздзяленні службы быту, як цырульня, пральня, фатаграфія — на мяжы развалу. Народнае прадпрыемства "Дабрабыт", якое "нарадзілася" на базе КБА, "трашчыць" па ўсіх швах.

Гарсавет слаба ўнікае ў жыллёвыя праблемы горада, асабліва што датычыць рамонту кватэр. Часта "абнаўленне" драўлянай "камуналкі" зацягваецца на многія месяцы: то дошак няма, то цвікоў, то цясляр не з"явіўся...

У горадзе расце злачыннасць. Прывольна адчуваюць сябе хуліганы. У парку санаторыя "Нясвіж" зарэгістраваны выпадкі глумлення над скульптурамі. Выказвалася прапанова: аднавіць работу добраахвотных народных дружын.

Слухаў я размову на сесіі і міжволі думаў: ну, заслухалі Гацілу, ну, прынялі рашэнне: "адзначыць крайне недастатковую работу выканкома гарсавета". А што далей? У зале пасяджэння многія дэпутаты драмалі або чыталі газеты. Не верыцца, што нехта кінецца выпраўляць недахопы...

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## Па старонках мясцовага друку

### "БелАЗы" ў ролі авіяпасажыраў

Незвычайная транспартная калона ў складзе васьмі "МАЗаў" і трактара "Кіравец" з тралам двойчы нядаўна накіроўвалася з Жодзіна ў аэрапорт "Мінск-2". Яна ж, паведамляе "Белорусский автозаводец", дастаўляла ў разабраным выглядзе два аўтасамазвалы "БелАЗ" грузападымальнасцю 120 тон.

На ўзлётнай паласе калону чакаў магутны самалёт "Руслан" акцыянернай авіякампаніі "Волга—Днепр" г. Ульянаўска.

Абслуговы персанал са сваёй задачай справіўся паспяхова. Праз шэсць гадзін, як і прадугледжвалася па графіку, пагрузка была закончана. "Руслан" праз пэўны адрэзак часу прызямліўся ў аэрапорце г. Мірны, што ў Рэспубліцы Саха (Якуція). Тут яго чакалі прадстаўнікі Айхальскага аб'яднання "Якуталмаз". Дастаўку аплаціў спажывец. Хутка яшчэ чатыры такія машыны паветраным шляхам прыбудуць да месца прызначэння.

### У вас зазваніў тэлефон

Сёлета, як сведчыць смалявіцкая раённая газета "Ленінскі заклік", у 556 сельскіх дамах упершыню зазваніў тэлефон. На 206 нумароў пашырылася АТС вёскі Юр'ева. На сто нумароў кожная "пабагацелі" аўтаматычна-тэлефонныя станцыі вёсак Пліса і Пекалін. Устаноўлена новая АТС на сто абанентаў у вёсцы Мглё.

У гэтым годзе плануецца ўзвесці тэлефонныя станцыі ў населеных пунктах Шыпяны і Курганы, а АТС в. Прылепы будзе рэканструявана, што дазволіць павялічыць колькасць тэлефонных нумароў амаль у шэсць разоў.

Усяго ў вёсках Смалявіччыны ўстаноўлена больш за тры тысячы тэлефонаў.

У райцэнтры набывае шырокую практыку ўстаноўка вячэрніх тэлефонаў. Цяпер такіх — 120.

### Планёр над горадам

У горадзе беларускіх шахцёраў прайшлі абласныя спаборніцтвы па авіямадэльнаму спорту, прысвечаныя 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гаспадары горада выставілі каманду ад цэнтра тэхнічнай творчасці моладзі. Чэмпіёнам вобласці стаў Станіслаў Лось з СШ №12. Дарэчы, гэты тытул ён заваёўвае ўжо трэці раз. Максімальную працягласць палёту паказала і мадэль дзевяцікласніка Андрэя Шпілеўскага з гэтай жа школы.

Метадыст гарадскога цэнтра тэхнічнай творчасці моладзі Т.Галоўчык у газеце "Калійшчык Салігорска" падрабязна расказаў і пра іншых удзельнікаў гэтага цікавага мерапрыемства. Салігорскім планерыстам прысуджана другое месца. Рыхтавалі іх да спаборніцтваў кіраўнікі гурткоў Анатоль Змачынскі, Мікалай Шалякін і Андрэй Кавалёў — вялікія майстры сваёй справы.

### Па абновы — у калгасны цэх

Жанчына спынілася ля касцюмаў, якія віселі ва універмагу г. Чэрвеня. Прыдзірліва агледзела швы, устаўку рукавоў. Потым пакрочыла ў прымерачную кабіну.

— Нібы на мяне шылі, — з радасцю зазначыла яна і накіравалася да касы.

Набыўшы абноўку, зірнула на этыкетку.

— Людцы добрыя! Дык гэта ж прадукцыя суседняга калгаса "Іскра". Прыгожыя і значна таннейшыя за тыя, што паступаюць з Мінска. Малайцы, кіраўнікі гаспадаркі!

Швейны цэх у названым калгасе пачаў працаваць летась. Спачатку, як адзначае газета "Раённы веснік", тут шылі чахлы для аўтамашын. Затым перайшлі на пашыў касцюмаў, сукенак, халатаў.

### Ажаніўся — зажурыўся

У старадарожскай сярэдняй школе №3 адбылося пасяджэнне "круглага стала", прысвечанае пытанням прававога выхавання дзяцей і падлеткаў. Такую сустрэчу зацікаўленых асоб арганізавала раённая камісія па справах непаўналетніх. У ёй прынялі ўдзел намеснік старшыні райвыканкома А.А.Міхайлаў, памочнік пракурора С.А.Балоцька, дырэктар цэнтра дзіцячай творчасці І.А.Філіпеня і многія іншыя. З трывогай прагучала выступленне загадчыцы аддзела ЗАГСа В.І.Барысенкі, якая паведаміла аб тым, што летась кожны трэці шлюб у раёне распаўся. Зарэгістраваны 24 пары, якім знізілі ўзрост уступлення ў шлюб. Прычым, як сведчыць публікацыя ў раённай газеце "Навіны Старадарожчыны", тры нявесты былі ў пятнаццацігадовым узросце, чатыром толькі па 16 гадоў. Вельмі "раннімі" аказаліся і жаніхі. Адзін з іх нават не дасягнуў 17-гадовага ўзросту. Тры шлюбы з гэтых 24-х ужо скасаваны.

■ Захапленні

# ...І ПАТЫСОНАВЫЯ «ЧАЛАВЕЧКІ»

**Я ведала, што наша новая суседка вяжа прыгожыя карункавыя сурвэткі, каўнерыкі, пляце з саломкі. Летась на свяце вызвалення Беларусі, якое праходзіла на стадыёне райсельгастэхнікі, была арганізавана выстава разнастайных вырабаў народных умельцаў. Там упершыню я і пабачыла справу рук Станіславы Іосіфаўны. А пасля яна і мне звязала два каўнерыкі, падаравала на дзіва прыгожыя сурвэтку і дэкаратыўны кошычак-вазачку з саломкі.**

Але тое, што ўбачыла цяпер!.. Божухна, якая ж невычэрпная фантазія, якая прага творчасці, якія ўмелыя рукі ў гэтай сціплай, усмешлівай, хударлявай і немаладой ужо (даруйце, Іосіфаўна) жанчыны. Душой радавалася, гледзячы на гэты саламяны цуд. Тут былі шкатулкі-куфэрачкі і вазачкі з двума «вушкамі» па баках, вазачкі-кошычкі з высокай ручкай і бантам на ёй, і кошычкі-кашпо, і сапраўдныя саламяныя капелюшы. А калі дадаць яшчэ рознага ўзору прыгожыя сурвэткі і міленькія дзіцячыя пінетачкі, можна здагадацца, што я сказала ў адказ на пытанне суседкі: «Ну як, ці варта везці на выставу?»

З таго часу і з"явілася задумка напісаць пра цудоўную народную майстрыху.

І Станіслава Іосіфаўна пачала расказваць...

Сям"я ў бацькоў была вялікая — сямёра дзяцей. Але жылі добра, бо ўсе — і старэйшыя, і малодшыя — шчыравалі на сваёй зямлі, а яе быў ладны кавалак — 7 гектараў. Бацька хварэў, але падросшыя ўжо сыны, браты Стасі, замянялі яго па гаспадарцы. І ў полі, і ля малатарні ўсе працавалі дружна, спорна. Затое мелі і хлеб, і да хлеба.

А зімой жанчыны і дзяўчаты пралі, ткалі, вязалі. Малая Стася прыглядалася, як спрытна ўвіхаюцца іх рукі, і хацела хутчэй навучыцца гэтаму сама. Употайкі ад сястры стала дапамагаць ёй вязаць сурвэтку. І ні разу не памылілася ва ўзоры.

...— Пагоніш, дачушка, свіней пасвіць, дык каб рукі былі занятыя, вазьмі вось узор карункаў да спадніцы, паспрабуй вязаць, — сказала неяк маці.

І Стася пастаралася, звязала ўсё так як трэба. Маці пахваліла: добра справілася са складаным узорам. А было ж тады дзяўчынцы толькі восем гадкоў...

...Ішоў час. Стася скончыла школу. І закінуў яе лёс ажно ў Калінінградскую вобласць — паступіла ў Азёрскі сельгастэхнікум на тэхніка-механіка.

Калі не ўдалося надзейна размеркавацца па спецыяльнасці на радзіме, паехала, хоць і без вялікай ахвоты, па камсамольскай пуцёўцы ў далёкую Сібір. Папрацаваўшы на будоўлі, усё ж змагла дабіцца свайго — знайшла месца па спецыяльнасці, стала майстрам вытворчага навучання ў Омскім вучылішчы № 42 механізацыі сельскай гаспадаркі. І як радавалася, калі ўдалечыні ад роднага дома сустракала земляка.

Там жа, у далечы далёкай, сустрэлася яна і са сваім будучым мужам.

— А быў ён у той час курсантам Руска-Палянскага вучылішча, куды я пераехала разам з усёй тэхнікай пасля рэарганізацыі вучылішча ў Омску, — успамінае Станіслава Іосіфаўна. — Ён — староста групы, я — класны кіраўнік. Неяк неўпрыкмет пакахалі адно аднаго. І Яша, Якаў Іванавіч, стаў маім мужам. Вельмі здольны быў, майстар на ўсе рукі. І пасля ўжо, калі мы пераехалі на маю радзіму і я працавала ў Багданаўскай і Караліноўскай школах, муж вельмі дапамагаў мне ў рабоце.

...Па просьбе маці пабудаваліся Станіслава Іосіфаўна і Якаў Іванавіч у Войштавічах. І Станіслава Іосіфаўна стала настаўнічаць у Караліноўскай васьмігодцы. Настаўніца біялогіі і працы, а пасля яшчэ і хіміі, з галавою кінулася ў работу. Тады юннаты Караліноўскай школы атрымалі грамату за другое месца ў раённай выставе кветак. Сама настаўніца была ўзнагароджана Ганаровай граматай Валожынскага РАНА за добрую падрыхтоўку і актыўны ўдзел у раённым злёце юннатаў. Ездзіла ў Мінск на станцыю юннатаў, на сельскагаспадарчую выстаўку.

Колькі выдумкі, фантазіі, старання было патрэбна пры афармленні выставак гародніны, кветак, розных раслін!

— Прыгадваю, як унеслі наш экспанат, які я назвала «Кабачкоў Ханька Патысонавіч» (ханька — гэта такі маленькі паласаты гарбузік), усе ажно ахнулі, так іх уразіў мой гарбузна-патысонава-кабачковы чалавечак... Пасля і вырабамі з саломкі аздабляла выстаўкі. Брат Леанід навучыў гэтаму майстэрству яшчэ ў дзяцінстве. Але прызабылася. І вось аднойчы прыязджае брат да нас у госці, а я да яго адразу ж з просьбай: «Навучы з саломкі плесці!»

А дапамагала ёй заўсёды сям"я: муж, трое дзяцей. Віцю прывезлі з Омска, цяпер ён загадчык майстэрань у калгасе імя М.Горкага. Ірына і Раман нарадзіліся тут, у Войштавічах. Цяпер Іра жыве ў Мінску. Раман застаўся ў бацькоўскай хаце. А муж памёр у 85-м...

Лёс склаўся так, што Іосіфаўна вось ужо пяты год як гараджанка — пераехала ў Валожын. І гады два — мая суседка, цяпер ужо Пятруцкая. І тут, ведаючы яе ўменне, просяць прызнаную майстрыху афармляць розныя выстаўкі народнай творчасці. За актыўны ўдзел і творчую індывідуальнасць як удзельніца выстаўкі народных умельцаў «Прыгажосць роднага краю» на літаратурна-мастацкім свяце «Люцінка» адзначана Дыпломам 1-й ступені. Не раз бачылі яе вырабы, сапраўдныя творы мастацтва, у родных Войштавічах, райцэнтры, ездзіла Станіслава Іосіфаўна з імі ў Івянец.

Слухала я жанчыну, разглядала новыя, мо ў гэты ж дзень і звязаныя карункі, і думала: як гарманічна спалучаецца ў ёй такое, здаецца, рознае — тэхнік-механік, трактары, і... карункі, пляценне з саломкі. Ды і ці ёсць хоць што-небудзь, чаго б не здолелі зрабіць яе рукі? А яшчэ падумалася: жыве па суседству чалавек, бачышся з ім амаль штодня і, часта здараецца, не ведаеш, якая багатая натура, які талент хаваецца за яго сціплай знешнасцю.

Няхай жа доўга яшчэ любуюцца людзі тым цудам, што выходзіць з-пад яе рук. Няхай доўгая будзе жыццёвая сцяжынка. Каб больш маладых, апантаных, як і яна, творчасцю людзей навучыліся рабіць гэткія ж прыгожыя рэчы, захоўваць спадчыну бацькоў нашых.

*Валянціна РУСАКЕВІЧ.*

■ Партрэт у інтэр'еры



## Уладзімір Лятун:

# Мяне заўсёды захапляў Купала

**Пра скульптара Уладзіміра Міхайлавіча Летуна, як, дарэчы, і пра іншых мастакоў-уздзенцаў, мы абяцалі расказаць яшчэ летась, калі надрукавалі ў №65 за 1993 г. іх групавы фотапартрэт. Аднак неўзабаве змясцілі нарыс толькі пра мастачку па касцюмах, выкладчыцу кафедры малюнка архітэктурнага факультэта БПА Айшу Браніславаўну Александровіч. З астатнімі ж публікацыямі выйшла затрымка.**

Але, як сцвярджае народная мудрасць, лепш позна, чым ніколі. Да таго ж сёлетні год для Уладзіміра Міхайлавіча адметны: яго родны райцэнтр хутка адзначыць сваё 500-годдзе. І да гэтага свята скульптар мае самае непасрэднае дачыненне. Бо звязаны ён з Уздзеншчынай не толькі праз сваю радаслоўную. Часта менавіта з родных месц ідзе імпульс для новых творчых задум.

Не ведаю, калі запала «божая іскрынка» ў душу і сэрца будучага майстра. Наўрад ці і сам ён вызначыў для сябе той «рубікон», за якім у яго юнай істоце «пачаўся» мастак. Магчыма, тады, калі на школьных перапынках даставаў аловак і безупынна нешта выводзіў на паперы. А можа, тады, калі любімая «батанічка» роднай пырашаўскай сямігодкі прасіла аформіць наглядныя дапаможнікі, плакаты, дыяграмы. А хутчэй за ўсё — пасля заканчэння сямі класаў, калі, насуперак бацьку, маці падтрымала намер хлопца не ісці ў дзесяцігодку, а паспрабаваць паступаць у мастацкае вучылішча.

А да гэтага быў яшчэ прыцягальны прыклад мясцовага мастака-самавучкі. Хацелася навучыцца маляваць «як ён». У вучылішчы ж наогул «стымулятары» творчасці «падпільноўвалі» на кожным кроку. Сам оперны тэатр — гэты Храм мастацтваў, які прытуліў і вучылішча, натхняў на самазабыўную вучобу. Ну,і ўзор творчасці выкладчыка Веры Сцяпанаўны Казак. Менавіта яна ацаніла малюнкі Уладзіміра як самыя моцныя, выразныя, дасканалыя. І прапанавала яму... перайсці на скульптурнае аддзяленне.

Прыродныя здольнасці, спалучаныя з прафесійнай вучобай у вучылішчы, а затым у мастацкім інстытуце, вызначылі творчы почырк майстра. Без сумнення, ён — прыхільнік скульптурнага партрэта.

— Я здаўна моцна звязаны з тэмай Янкі Купалы, — расказвае Уладзімір Міхайлавіч. — Працаваў над маладым Купалам, ва ўзросце 25—24 гадоў. Менавіта тады нараджаўся яго геній. Менавіта тады ім напісаны многія творы, якія мы ведалі дастаткова слаба, а наш час пазначыў іх як даволі значныя. Зрабіў скульптурны партрэт Купалы, медаль, які адліты па маёй мадэлі ў Рызе. Цяпер працую над бюстам паэта па заказу беларускага зямляцтва ў Аргенціне. Адначасова рыхтую работу для новага філіяла музея Купалы, што адкрываецца пад Маладзечна.

Купалаўская тэма, бадай, вядучая ў творчасці скульптара. Ёсць і іншыя, якімі ён па праву ганарыцца. Найбольш прыхільны аўтар да ваенна-гістарычнай. Праз яго рукі і ў фігуральным, і ў літаральным сэнсе прайшлі дзесяткі герояў мінулай вайны. Славутых і малавядомых. У многіх гарадах і вёсках пры яго непасрэдным удзеле адкрыты помнікі, скульптурныя ансамблі — сімвалы нашай жалобы, павагі і ўдзячнасці тым, хто аддаў сваё жыццё за Радзіму.

А цяпер, напярэдадні 50-годдзя вызвалення Беларусі і 500-годдзя г.п. Узда, Уладзімір Міхайлавіч актыўна дапамагае ў рэканструкцыі сквера і помніка воінам і партызанам у родным райцэнтры.

Майстэрня мастака — своеасаблівы музей скульптуры, дзе галоўны скарб — партрэт сучасніка. Вобразы вядомых на Беларусі людзей, знаёмых, сяброў, створаныя талентам Уладзіміра Міхайлавіча, яго мастацкім бачаннем і дужымі рукамі.

Усё, што набыта майстрам, бясспрэчна, дарагое яму. За кожнай яго работай — канкрэтны чалавек, са сваім характарам, уласцівымі толькі яму рысамі твару. А колькі новых знаёмстваў, здаралася, завочных! Калі па даўніх фатаграфіях даводзілася ўзнаўляць вобраз.

Неяк з адной воінскай часці прыбыла да Уладзіміра Міхайлавіча дэлегацыя. Так, маўляў, і так, у нас у часці ёсць два Героі Савецкага Саюза. Хацелі б мець іх скульптурныя бюсты.

Перадалі майстру некалькі фатаграфій. І просьбу: «Пастарайцеся тэрмінова». У часці рыхтаваліся да свята і хацелі на ім ушанаваць памяць Герояў.

Да прызначанага дня ўсё было гатова. Уладзімір Міхайлавіч едзе ў часць. Парукаўшыся з камандзірам, заўважыў ля штаба пажылых людзей. Адразу ж мільганула думка: з кімсьці з іх сустракаўся. Так і ёсць. Майстру прадставілі яго «падапечных» — Курына і Умеркіна. Аказваецца, яны жывыя! А ён грэшным чынам (паколькі далі франтавыя фатаграфіі) палічыў іх загінуўшымі. Як жа так, ні словам, ні паўсловам пра магчымую сустрэчу! У такім разе — вырашыў — паказваць работы нельга. Як аўтар, ён мае на гэта права. Нельга ставіць у няёмкае становішча паважаных людзей. Калі б ведаў, што яны жывыя-здаровыя, абавязкова б знайшоў магчымасць сустрэцца. Гэта зусім іншая справа.

Пакрысе супакоіўся, прыгледзеўся. І ўсё ж даў згоду на адкрыццё скульптурных бюстаў. І ўжо зусім светла стала на душы, калі ўбачыў прыемнае здзіўленне сваіх новых сяброў. Ды і сам зразумеў: з натуры наўрад ці зрабіў бы лепш. «Дзякуй, вы далі магчымасць заглянуць нам у сваю маладосць», — гаварылі пазней франтавікі.

Мне здаецца, што спазнаць і перадаць у гіпсавым вобразе характар і стан душы свайго героя Уладзіміру Міхайлавічу дапамагае... яго характар. Адкрыты, добразычлівы. У яго майстэрні часта бываюць сябры, госці. І заўсёды знаходзяць тут разуменне, саўдзельнае слова. З ім падтрымліваюць пастаянную сувязь яго вучні — выпускнікі роднага вучылішча, дзе ён выкладаў пасля заканчэння інстытута, — Галіна Гаравая, Саша Крохалеў, Аляксей Паўлюшчык. У скульптуры цяпер яны твораць на роўных. І тым не менш ідуць да настаўніка.

Вядомая ісціна: талент і дабрыня заўсёды разам. Разам жа яны і робяць наш свет прыгажэйшым.

*Мікалай КАРОЛЬ.*

**На здымках:** Уладзімір Міхайлавіч **Лятун** у сваёй майстэрні; работы майстра.

*Фота А.БАСАВА.*

■ Ракурс

# Хутарская вотчына дзеда Васіля

Ды ну яе, сякеру гэтую! Ці то яна з кожным днём усё цяжэйшая робіцца. Ці то рукі былую моц губляюць...

А, здаецца, толькі б і цяслярыць дзеду Васілю. За гэтулькі гадоў вунь як прыладзіўся-прымайстраваўся! Калісьці добры попыт быў на ягоную прадукцыю. Што табе колы для драбінаў, а што нават сані цэлыя — на ўсё дзедава сякерка здатная была. Ва ўсякім разе, ніводнай "рэкламацыі" з калгаса за ўсю цяслярскую бытнасць майстру прымаць не давялося. А яна, бытнасць гэтая, доўгая-доўгая...

Нарадзіўся дзед Васіль ажно на пачатку стагоддзя. Жорсткага і яркага. Словам, якраз тады, калі заварвалася "каша", якую некалькі пакаленняў доўга і старанна расхлёбваюць і па сённяшні дзень. Дзедавы аднагодкі памятаюць не адну, відаць, рэвалюцыю і — дакладна! — не адну вайну. Яны бачылі "ворагаў народа" і... спадарожнікі Зямлі. Спазналі радасцей — пакрысе і ой нямала — горачка! Таму не дзіўна, што многія з равеснікаў дзеда Васіля апынуліся пад коламі часу...

Ён выжыў. У часіны, калі чыйсьці лёс вызначаўся не добра прадуманымі "правіламі гульні", а проста... латарэяй. Шчаслівы білет? Ці моцы, празорлівасці і цярпення знайшлося больш, чым у іншых? Так ці не так — дакладна не ведаю. Але даўно пераваліла дзеду Васілю на дзевяты дзесятак, шэсць з якіх, плячо ў плячо з ім, — жонка Яўгенія Восіпаўна. Ды сямёра дзяцей, якія хоць і не побач цяпер, але, дзякуй богу ці выхаванню бацькоўскаму, пра тату з матуляй не забываюць.

...Мяняюцца міні-эпохі і правадыры. І разам з імі — "грамадскае надвор'е". І разам з ім — пінжакі на фрэнчы і фрэнчы на пінжакі. Вось толькі назіраць за чарговым "шоу" ў дзеда Васіля ніяк не атрымліваецца. Куры ды авечкі, карова з цялушкай ды бычок... Вось і круціся, дзедка, вакол гэтага "багацця", як і ў маладосці, ад цямна да цямна. Хіба тут да відовішчаў? Таму, калі і быў бы у доме тэлевізар, наўрад ці знайшоўся б час пазіраць у яго.

Дарэчы, не толькі без усюдыіснага тэле-,— без радыё і нават... святла абыходзіцца састарэлая пара. Электрычнасці тут ніколі не было: хутар — ён і ёсць хутар. На два-тры кэмэ — ані душы вакол вотчыны дзеда Васіля! А кінуць яе, як бы ні "ўломвала" калгаснае начальства, сялянскае сумленне не дазваляе. Тут, на гэтым месцы, "за польскім часам" быў сямейны надзел Мацкевічаў.

...З вялікай неахвотай "адрываўся" ад зямелькі Васіль, мабілізаваны перад самай вайной у войска польскае. А неўзабаве, на савецкім золку, прыйшлося яму змяніць салдацкі мундзір на сціплую ватоўку "працоўнай арміі". Грэх у выглядзе службы на буржуяў замольваў Васіль Мацкевіч на лесапавале не адзін год. Ох і мала лясная справа цяслярскую яму нагадвала. Ох і многа здароўя адабрала "выхаваўчая норма" — кубаметр драўніны ў дзень...

Але пра гэта, выпакутаванае, дзед Васіль успамінаць не любіць. І ніколі не любіў. Каб не звязвала ног шчымлівая памяць. І была б магчымасць крочыць далей. Мо таму і выжыў та-



ды, калі мно-огія равеснікі загінулі пад коламі часу?..

...Ды ну яе, сякеру гэтую! А ўсё ж моцна трымаю капрызную, у руцэ! Хоць і стала яна цяжэйшая...

*Інеса Петрусевіч.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

*Калгас "За ўладу Саветаў" Маладзечанскага раёна.*

# БАЗА. У ТУПІКУ

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

— У прынцыпе гэтаму падпарадкаваны і наш вылічальны цэнтр, — уступае ў размову загадчык аддзела эксплуатацыі ЭВМ Ларыса Пятроўна Хаткевіч. — У кожнага таваразнаўцы на рабочым месцы дысплей. Працэс руху тавараў, паступлення новых вырабаў, выпіска рахункаў-фактур кантралююцца аўтаматычна з дапамогай камп"ютэраў. У любое імгненне можам атрымаць любую інфармацыю па становішчу на базе.

А яно, гэтае становішча, зусім незайздроснае. Куды варта, калі 78 працэнтаў расходаў прыпадае, прабачце за таўталогію, на працэнты за крэдыты. Якіх узялі 3,8 мільярда рублёў.

— Мы пастаўшчыкам вінны 4 мільярды, а райспажыўсаюзы нам — каля 5 мільярдаў. Дарэчы, вось з Вілейкі даслалі паперу, якой забараняюць загадчыкам магазінаў адбіраць тавар з-за нізкай плацежаздольнасці РСС. Як быццам на месцах не лепш відаць, што браць, на што попыт. Гэта ўжо выдаткі нашай сістэмы. А наогул, рукі мы не апускаем. Галоўнае — захаваць калектыў.





Людзі ў нас высокакваліфікаваныя, вопытныя, — гаворыць Р.Р.Хаткевіч.-Настануць лепшыя часы — і ўменне, веды іх спатрэбяцца.

А пакуль з мэтай паляпшэння фінансавага становішча базы адкрыты два магазіны, якія даюць такі-сякі прыбытак. Пачаў дзейнічаць швейны цэх, дзе выпускаюць пасцельную бялізну, розныя камплекты на спальныя ложкі, халаты. Удалося захаваць асяродак калектыву, пазбегнуць масавага звальнення людзей. І хоць міжрайбаза сёння абставінамі загнана ў тупік, яна з яго выберацца.

*Мікалай ШЛОМА.*

**НА ЗДЫМКАХ:** тэхнолаг Хрысціна **Карпіновіч** дэманструе прадукцыю швейнага цэха; швейны цэх; у зале ЭВМ.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

# РУКУ ПОЖАЛ ДЕ ГОЛЛЬ...

21 июня 1941 года проходили комплексные спортивные соревнования воинов Брестской крепости. На празднично оформленном стадионе, на всех его площадках и секторах шла упорная борьба. В состязаниях участвовали помощник командира взвода полковой школы 455-го полка старший сержант Лаенков – выше среднего роста, атлетического сложения юноша. Он вышел тогда победителем на десятикилометровой дистанции кросса, завоевал первенство в стрельбе из армейской винтовки и ручного пулемета. Сослуживцы тепло поздравили нового чемпиона Брестской крепости. Старший сержант был награжден именными часами. Ему предоставили краткосрочный отпуск для поездки к родным.

После соревнований Лаенков с отпускным билетом в кармане заступил в наряд помощником дежурного по части. Под утро к нему неожиданно обратился один из дневальных:

– Товарищ старший сержант, на небе необычное явление...

Лаенков выскочил во двор. Из-за пограничной черты плыли какие-то невиданные звезды – яркие и разноцветные. Они усеяли весь западный горизонт. Вскоре послышался нарастающий шум, рокот, начали раздаваться взрывы. С быстротой молнии Лаенков вскочил в казарму и скомандовал:

– В ружье! Боевая тревога!

...У Филиппа Ивановича прекрасная память. Обстоятельно, с подробностями рассказывает он про бой у моста через Муховец.

...На рассвете воскресного дня 22 июня личный состав полковой школы занял оборону. Двое с половиной суток группа бойцов 455-го стрелкового полка мужественно отбивала яростные атаки врага. Как только на мосту появлялись гитлеровцы, старший сержант Лаенков, сержант Родченко и другие открывали огонь из пулеметов, установленных в подвальном помещении полковой столовой.

Фашисты обстреливали, бомбили столовую. Здание сравняли с землей. Но бетонированный подвал оставался невредимым. Отсюда бойцы, возглавляемые комсомольцем Лаенковым, продолжали наносить ответные удары по врагу.

Потерян счет отбитым атакам. Однако гитлеровцы не унимались. На рассвете 23 июня они предприняли ответный штурм. Более сотни пьяных солдат и офицеров ринулись к мосту. Наши бойцы ударили по ним из пулеметов. Однако фашисты продолжали наседать. Тогда Лаенков выскочил из подвала и швырнул несколько гранат.

Очередная вражеская атака захлебнулась.

Кончились боеприпасы. Нужно было отходить к своим, в крепость. Лаенков стал отползать в сторону, к развалинам жилого дома. В это мгновение вспыхнули оранжевые молнии взрыва. Лаенков почувствовал сильный удар, пронзительную боль и потерял сознание...

Очнулся от раздражающего запаха медикаментов. Первым, что увидел, когда открыл глаза, была свастика.

– Она была на рукаве фашиста, стоявшего надо мной, – вспоминает Филипп Иванович, – мне показалось, что бой продолжается, а я лишь на время выключен из него. "Уничтожить гитлеровца", – мелькнула мысль. И я вскочил на ноги. Вцепился в грудь врага. Но тут же почувствовал удар в переносицу. Кровь залила лицо. Вновь потерял сознание.

С горечью в сердце говорит о фашистском плене:

– Знойным летом сорок первого нас, изнуренных и обессиленных, пригнали в концентрационный лагерь Бяла-Подляска. Военнопленных содержали на открытом песчаном поле, окруженном в два ряда колючей проволокой. Советских людей морили голодом, всячески издевались над ними. Мы решили совершить групповой побег. Однажды ночью бросились на конвоиров... Бежать удалось немногим.

Филипп Лаенков с Григорием Герасимовым вырвались на волю. Но вскоре были схвачены и отправлены в лагерь военнопленных под Демблином. Глубокой осенью, перенеся тифозное заболевание, Лаенков совершает второй побег. И вновь был схвачен фашистами. Опять карцер, побои, допросы.

Из Демблина Лаенкова переводят в Лимбург. Затем в "Черный лагерь". И, наконец, на одну из шахт Эльзас-Лотарингии.

В 1944 году гитлеровцы срочно эвакуируют лагерь военнопленных на территорию Западной Германии. Лаенков во время марша недалеко от деревни Кирш убивает конвоира, немецкого унтер-офицера, захватывает его оружие и вместе с товарищем совершает побег. На этот раз удачный.

Вскоре в эльзасских лесах встречается с французскими партизанами. Мечта защитника Брестской крепости, наконец, сбылась. Он снова с оружием в руках громит заклятого врага. Вместе с патриотами Франции взрывает вражеские склады с оружием и боеприпасами, разрушает мосты, пускает под откос эшелоны с гитлеровцами...

Окончилась война. Как родного брата провожали Лаенкова на Родину участники французского движения Сопротивления. Крепко пожал ему руку сам генерал Де Голль, вручая очередную награду Франции...

*Д. ПИСЛЯКОВ, полковник в отставке.*

■ Смех — смехом

# С ЛУНЫ СВАЛИЛСЯ

## И не кто иной, как сам лунатик. По имени-прозвищу Л.М.Повня

***Невероятное, но очевидное, хотите — верьте, хотите — нет. Как, при каких обстоятельствах и где — не скажу, но мне посчастливилось встретиться с лунатиком и побеседовать с ним. Многое из того, о чем говорил гость, полезно осмыслить всем нам, землянам, но особенно — кандидатам в Президенты Республики Беларусь.***

1.

**Я:** *Лунакентий Месяцевич! Вот мы на редкость легко вошли в кризис. Но как же выйти обратно? Может, Вам с лунного высока, на расстоянии видней?*

**ОН:** Проще пареной репы: ведь речь идет о подлунном мире. Лишь тезисно обозначу программы, а вы реализуйте:

1) "Лен". Земля под ногами. Трудолюбие есть. Для экологии благоприятно. А кто, скажите, устоит против льняной одежды, простыни, занавески? Вот и торгуйте со всем миром. Все флаги в гости будут к вам.

2) "Наука". Конструкторская и технологическая документация изделий на базе науки, как ноу-хау, отработанная на ваших производствах (работающих на переработке отходов серийно, только на внутренний рынок), — и есть предмет экспорта в страны, где для производства этих изделий имеется и сырье, и ресурсы, и возможности.

3) "Здоровье". Повсеместное строительство в живописных местах Беларуси (а они сплошь живописные) оздоровительных домов отдыха (ведь умели и знали, где строить усадьбы, и ваши, и польские помещики). Зимой там отдыхают и лечатся, в основном, деревенские дедушки и бабушки (на это время там же и их домашний скот содержится при санаторной ферме). Летом очищают душу и карманы наши и зарубежные толстосумы: грибы, ягоды, рыбалка — уму непостижимые удовольствия. А радиация в небольших дозах — это же лекарство.

4) "Сельхоз". Обеспечение производителей средствами малой механизации, чтобы можно было осуществить разумное сочетание больших коллективных хозяйств и малых личных: в больших хозяйствах выращивать легко механизируемые культуры (зерновые, травы, силосные...); в малых — культуры, требующие большой доли ручного труда (лен, бобовые, овощи, фрукты, ягоды, картофель и др. корнеплоды, в т.ч. сахарная свекла...).

5) "Воспитание". Общеобразовательная школа работает только зимой, домашних заданий не задают (чтоб дети не отлынивали от работы, ссылаясь на уроки). И не месяцами нужно осваивать, например, задачки на части, проценты, дроби, а за один часовой урок: если мы имеем целое 1 кг, то десятая часть от него составит 100 г; а если всего лишь десятая часть целого составляет 100 г, то все целое есть 1 кг. И всего-то.

Итак, в заключение скажу: у вас все есть, все свое. А чего уж очень не хватает — прикупите: ведь только за льняные изделия будете грести деньги лопатой.

2.

**Я:** *Действительно, ясно, как в солнечный день или в лунную ночь. (Сам себе: да, мудрец — он лишь обозначит, а я — работай.) Но вот, по-вашему, что это такое — смысл жизни?*

**ОН:** Вопрос, конечно, интересный. Глобальный. Но у нас на Луне нет проблем. Это счастье — иметь как можно больше свободного времени для самовыражения и как можно меньше тратить времени на обязательный труд. Именно для этого требуется повышение производительности труда, созидание, накопление. А что лунатику нужно? Элементарное: пища, одежда, жилище, семья, работа, отдых и ... счастье, т.е. смысл жизни — удовлетворение духовных (вторичных) потребностей. А надевать шубу на шубу у нас не принято: во-первых, жалко, а во-вторых, жарко.

К слову, и количество программ, и количество потребностей составляет число семь. У вас это магическое (счастливое) число: семь дней в неделе, семеро одного не ждут, семь раз отмерь, а математически: $2^0 + 2^1 + 2^2 = 1 + 2 + 4 = 7$, где в основе лежит число 2: он и она (а третий — лишний), плюс и минус, две стороны медали и т.д.

У нас на Луне счастливое число — тринадцать, т.е. $3^0 + 3^1 + 3^2 = 1 + 3 + 9 = 13$, где в основе лежит число три: Бог троицу любит, устойчивый треугольник, сообразить на троих, плюс — ноль — минус, и медаль у нас с тремя сторонами — толстая такая, чтоб много не цепляли.

А вот раньше, давно, когда мы ходили на четвереньках, в основе было число четыре: $4^0 + 4^1 + 4^2 = 1 + 4 + 16 = 21$. Вот откуда пошла (у вас еще сохранилась) карточная игра в очко.

Но это было отступление. Еще добавлю по существу вопроса. Не страшно (а может, и очень хорошо), если индивид находит смысл жизни в простом. Например: когда работа совпадает с хобби; когда семья — это вершина его любви; просто ощущение личного здоровья и т.п.

3.

**Я:** *Как вы оцениваете приватизацию?*

**ОН:** Точно так же, как и коллективизацию.

**Я:** *Поясните, пожалуйста.*

**ОН:** Люди, слава Богу, — разные. И формы организации труда, и имущественные отношения требуются разные. Так пусть сами люди и выбирают: кто-то любит кагал, а кто-то уединение, тишину... К примеру, бабке в 80 лет незачем бежать в учреждение, чтобы продемонстрировать свои наряды, да и на конвейере ей, может, тяжело уже работать. А возле дома, на своем приусадебном участке она еще тупает: себя кормит и других.

Да и то... Ладно уж, когда во время коллективизации личное сделали общественным, народным. А теперь во время приватизации общенародное раздают частникам. Вот и получается, что бабкам все это создавшим, выворачивают руки и забирают последний рубль, завернутый в хусточку.

4.

**Я:** *А лунатики стремятся выбиться в начальство?*

**ОН:** Быть, скажем, начальником, тем более безответственным, не каждый согласится. Дудки-с! Но есть такие — хлебом не корми, дай поруководить. Но обычно лунатик лезет в начальство, когда имеет замыслы, идеи, программы, которые эффективней можно реализовать, занимая ту или иную руководящую должность.

5.

**Я:** *Извините, может, это секрет: как у вас построены военные ведомства в государствах?*

**ОН:** Да, раньше, действительно, каждое государство имело свое военное ведомство, причем все они назывались оборонными. И ни в одном государстве не было военного ведомства нападения, агрессии. Естественно, возник вопрос: от кого они все готовятся обороняться, если никто не собирается нападать? И теперь у нас одна на всю Луну легкая, быстрого реагирования небольшенькая армия для усмирения хулиганов.

6.

**Я:** *Кстати, как у вас на Луне с питанием?*

**ОН:** Питаемся только растительностью (высший шик и кайф — сырой продукт). И очень вам рекомендуем. А что такое мясо, молоко? Это переработанная растительность, т.е. переводная. Так зачем же перевод, если лучше — оригинал? Зубр мяса не ест, а...

7.

**Я:** *Вот у нас на Земле простой народ все строит, строит... Столько понастроили, что придется много попотеть, пока все это сравняем с землею, чтобы подготовить, так сказать, площадку для нового строительства. Как нам быть? Может, у вас есть какие-нибудь новейшие технологии по ускорению разрушения и перестройки?*

**ОН:** Да, вам не позавидуешь. Суперзадача. Архиважная. Действительно, если не успеваете разрушать, то уж, конечно, вовсе не хватает времени и сил на созидание. А жизнь коротка: туда-сюда и... в могиле. Но помочь не могу. У нас на Луне такой широкомасштабной стратегии нет. Мы тут действуем ограниченно, примитивно, однобоко: только созидаем, совершенствуем, развиваем. А если что и разрушается, так не поверите — само собой, естественным образом, без приложения наших сил. Испробуйте, если пожелаете, этот устаревший, дедовский вариант. Не мне вас учить экспериментированию.

8.

**Я:** *У нас теперь скоропостижно создаются новые структуры. Понятно же, философия об этом научно талдычит: старое должно породить и взрастить новое, а уж новое всегда заотрицает старое — это у нас запросто. Но и тут какой-то невдомек. Что это такое, в конце концов?*

**ОН:** Но, как Вы называете, новое — разве оно сплошь новое или хотя бы вновь образовавшееся? Это ваше "новое" как раз старое, которому уже несколько сот лет. А вообще, при отсутствии содержания большое внимание уделяется поиску форм.

9.

**Я:** *А конкуренция — движитель прогресса?..*

**ОН:** Чтобы спрятать ноу-хау, чтобы друг друга сожрать, утопить, поставить на колени? Но есть и другая формула:"Будет у людей — будет и у нас!"

10.

**Я:** *(Сам себе: без воровства? Это же какое-то антиобщественное явление.) Но мафия слушает да ест. Живет припеваючи. Что с ней-то делать?*

**ОН:** Мафия — это ваши братья, дети, отцы, соседи, сослуживцы... Все всем известно. Они же не с Луны свалились. Захотели бы вы только — через день и по мафии было бы. Но вам, видно, жалко своих. Активные ведь ребята. Ну так выдвиньте лозунг: мафию на службу народу!

11.

**Я:** *У нас говорят, что в управлении, в правительстве должны работать профессионалы. Что Вы скажете по этому поводу?*

**ОН:** Профессионалы — да, но не заурядные специалисты, а их противоположность — корифеи. Поясню: корифей (в переводе) — руководитель хора в древнегреческом театре. В каждом человеке с рождения есть все или многое, равно как звуки в музыкальных инструментах. Но чтобы их извлечь, нужно привлечь специалистов, а чтобы получился оркестр, нужен дирижер (корифей). Вот и судите сами: народу — тьма; специалистов — хоть пруд пруди; а корифеев — раз, два и обчелся.

12.

**Я:** *Повсюду спорят о налогах...*

**ОН:** Извините, перебью. Налоги (правда, он у нас один-единственный) — это благо, ибо есть фонд развития. У нас, если хотят наказать лунатика, то лишают его права платить налог. И это равносильно отлучению его от общественно-полезного дела. А быть не у дел — высшее наказание.

13.

**Я:** *А как насчет ускоренного развития?*

**ОН:** Чтобы ехать быстро, нужно смотреть вперед, а не под колесо. А чтобы смотреть вперед... Понятно?

**Я:** Понятно. (Сам себе: черт его знает, что он имеет в виду, но сделаю вид, что и мы не лыком шиты, умеем даже лаптем щи хлебать. Были бы щи.) Однако...

**ОН:** Выявить, видеть, спрогнозировать перспективу (то, чего пока нет) труднее, чем сделать любое открытие (то, что уже есть).

14.

**Я:** *О, теперь еще понятнее, а то все изобретают вечный двигатель...*

**ОН:** Зачем? Вечный двигатель есть! Это природа, мир, вселенная. Надо только уметь подключаться к нему.

15.

**Я:** *??? Вот у нас все трудности, сложности... Некоторые посмеиваются даже, что мы их специально создаем, чтобы потом преодолевать. Ну, как упражнения для детей, скажем.*

**ОН:** Какие сложности? Может, просто не с той ноги встали?

**Я:** *А с какой ноги нужно вставать?*

**ОН:** С той, конечно.

16.

**Я:** *Мы все о деле, а вот, как бы культурней выразиться, как насчет дровишек-то любовь поджарить?..*

**ОН:** "Труд — жизнь — любовь — жизнь — труд". Эта формула читается так: труд дает нам жизнь, а в жизни есть любовь; но если любишь, то так хочется жить, а чтобы жить, нужно трудиться.

**Я:** *Ага. (Сам себе: все говорил — свободное время, свободное время, а тут выходит — день и ночь трудись. По формуле.) А вот у нас некоторые (особенно эти профессора в очках, шляпах и галстуках) говорят: женщина — не человек, она — божество; а мужчина, мол, человек, а человек — частный случай животного, а за животными требуется уход, особенно за домашними... Ну черт-те что!*

**ОН:** Муж и жена — одна сатана. Любите за недостатки: их и больше, чем достоинств, и они разнообразнее...

17.

**Я:** *А как у вас таланты — тоже миллионы гребут?*

**ОН:** Общность должна кормить своих дураков и гениев, лентяев и трудяг. Гений — достояние народа, который его родил, поэтому он должен жить и трудиться для народа, а не только для себя. В этом его предназначение и условие его гениальности. Живите красиво, люди! Сделайте границу для брюха и безграничность для духа — вот!

18.

**Я:** *У нас просто бум насчет языка...*

**ОН:** В каком-то своем прошлом рождении я был белорусом. И мне это все понятно. Но было бы что мудрое сказано на любом языке — все остальные языки услышат.

19.

**Я:** *Инфляция...*

**ОН:** Инфляция — это явление (т.е. то, что лежит на поверхности, что мы видим, ощущаем), но докапывайтесь до сущности, т.е. тех глубинных процессов, которые эту инфляцию вызвали. Это не сложно, но требуется обстоятельное рассмотрение, анализ и синтез. К слову, когда сделаете анализ (разложите по частям), то не забудьте сделать синтез (т.е. соберите потом целое).

20.

**Я:** *Жилье...*

**ОН:** Что жилье? У вас этот вопрос еще при социализме был хорошо отработан: хочешь — строй сам; хочешь — кооперативно; хочешь — по очереди получи государственное и плати квартплату, как арендатор, стоит только добавить теперь: с правом выкупа в любое время. Или госмужики вносят опять какие-то новшества, лишь бы только не строить?..

21.

**Я:** *Так вот, насчет госмужиков: как Вы думаете, кто у нас станет Президентом?*

**ОН:** Тот, кто овладеет Теорией элитного метода управления общностью, которую предлагает ваша же Академия элитных наук и искусств как ноу-хау.

Вот и все. У меня очко! 21! А дальше — перебор.

***

Я раскрыл рот, вытаращил глаза и говорю лунатику:

— Лунакентий Месяцевич, у меня куча вопросов осталась. Возьмите два очка, три...

— В следующий раз, если пожелаете. Теперь разрешите мне через Вас передать искренний привет (хотя и несколько прохладный и тускловатый) всем землянам от всех лунатиков.

— Взаимно, взаимно. Благодарю Вас.

Тут уж и потемнело. Вечер, ночь. Луна взошла. Ему пора домой отправляться, а тут, как назло, драбину (ну, лестницу, трап) найти не можем.

Но с горем пополам отправил с комфортом. И подумал сам себе:"Хороший он мужик, хоть и недотепа: прописные истины нам объясняет. Говорит и нумерует. Будто мы не знаем, что и как надо делать. Говорить мы все мастера. Но нас так просто не возьмешь: мы закаленные, правда, в воде, а не в масле, но все равно крепки, как сталь".

*Беседу записал через пень–колоду Я — свой собственный В. ДОБЫШ.*

